УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)
С15

**ГОДУ ДЗІЦЯЦІ
ПРЫСВЯЧАЕЦЦА**

Мастак
***Тамара Шэлест***

Для малодшага школьнага ўзросту

*Выпуск выдання
ажыццёўлены па заказу
і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі
Рэспублікі Беларусь*

ISBN 978-985-02-0934-4


## ЗАКАЗ ПА СОТАВЫМ ТЭЛЕФОНЕ

Звоніць пчала
Па сотавым:
— Ці зрабілі мне
Соты вы?
Чаго няма?
Рамак?
Зламалася
Пілярама?
Ой,
Не чуваць ніколькі!
Не,
Я не глухая пчолка.
То сёстры шумяць,
Гудзёлкі.
Дык што,
Калі будуць соты?
Не ноты,
Не шпроты —
Соты!
Праз тыдзень
Будуць гатовы?
Што, што?
Зрабіць заказ новы?
Дзякуй.
Бывайце здаровы!



## АБ ЧЫМ МЫЧЫЦЬ КАРОВА?

Ляжыць карова,
Не маўчыць:
Скрозь губы сцятыя
М-мычыць.
Без перапынку
Штось жуе...
Мо гумка
М-мятная
Ў яе?
Ляжыць карова
І м-мычыць:
«Пара, пара
М-мяне даіць.
Я м-малака
Сабрала
Шмат —
На ўвесь дзіцячы
Хопіць
Сад!»



## ЦЕПЛАХОД ІДЗЕ Ў ПАХОД...

— Адкажы нам,
Цеплаход,
Ты ў які
Ідзеш паход?

Прыгажун,
Высокі,
Белы,
Ты куды
Кіруеш смела?

Цеплаход
Дае гудок:
— Мне ў любы-ы
Плыць мо-о-жна
Бо-о-к,
Бо
Нічо-о-га
Не
Баю-ю-ся
І нідзе я
Не
Ўтаплю-ю-ся.



## МЯДОВЫ СОН

Ён сніць
Пчаліную калоду,
А ў той калодзе —
Соты з мёдам.
Ён запускае ў соты лапу,
А потым разяўляе зяпу
І смокча з лапай
Мёд салодкі...
Сніць Мішка сон
Такі ж,
Як продкі.

Наўрад ці хто
Прымусіць Мішку
Пакінуць
Дрэнную прывычку,
Бо сніць жа ён
Зімой суровай
Не просты сон,
А сон — мядовы!





## ВОБЛАКІ-ЯБЛЫКІ

Круглыя
Воблакі
Янку
Наўздзіў
Вельмі
Нагадваюць
Белы
Наліў.

Толькі шкада,
Не на Янку
Зваліліся —
За небакрай
Яны ўсе
Закаціліся.



## ЧЫЕ ЛЕПШЫЯ ПАДАРУНКІ?

Малеча
Малюе
Малюнкі.
За гэта яму —
Пацалункі.
Цікава
Падвесці
Рахункі,
Чые ж
Лепшыя
Падарункі:
Для маці —
Малюнкі дзіцяці,
Для сына —
Пацалункі маці?



## СУСТРЭЧА НА ДАЧЫ



Стрэў я зайца — нос у нос.
Ён забег на дачы.
Выгнаў з лесу Дзед Мароз
Шэрага, няйначай.

Мы спыніліся, маўчым.
Заяц не ўцякае.
Дзядзьку позіркам касым
Знізу разглядае.

Не пазнаў, відаць, мяне,
Хоць хаджу тут часта.
Раптам шэры як рване
Сцежкай пакручастай.

— Эй,— крычу яму,— пастой,
Ну і даў ты ходу!
Мне ж не ўгнацца за табой —
Я не той пароды!

Ты на лапах чатырох —
Хто цябе абскача!
Мала, бачыш, мне дзвюх ног
Бегаць па-сабачы.

...Заяц стаў. Перадыхнуў
Пад густой вярбою,
Раптам вухам мне махнуў,
Я ж яму — рукою.

## СЯБРЫ

У мяне шчанюк Дружок.
Ён і я — малыя.
Цэлы возімся дзянёк —
Во сябры якія!

То за вушы, то за хвост
Тузаю сабаку,
То вучу скакаць праз шост
Доўга небараку.



Надакучаць шчанюку
Мае гульні дужа,
Працягну яму руку:
— Не крыўдуй, мой дружа!

Зробіць ён насустрач крок,
Лапу дасць вяльможна...
Не, без дружбы мой Дружок
Аніяк не можа!



## РАСІНКІ-СЛЯЗІНКІ



Рыгорка ўранку на лужку
Гуляў з сястрычкаю малою.
Прыемна бегаць хлапчуку,
Збіваць расу нагою.



Алёнка кажа: — Я не дам
Таптаць зялёныя травінкі!
У іх ад болю, бачыш сам,
Аж пацяклі слязінкі.

## БАЛОТНЫ КЛОЎН



Света кажа пра бусла:
— Клоўн ён балотны!
Доказ нават прывяла:
— Вунь які смяхотны.



Нос даўжэзны прычапіў,
Як у Бураціна,
А хадулі сам зрабіў
З двух пруткоў лазіны.





Па балоце ходзіць ён,
Быццам па арэне.
Смех во толькі не чуцён —
Дзіўнае здарэнне!

Вунь і ў жабак маладых
Знік настрой смяяцца.
Мо набралі ў рот вады?
Не, сябры, яны заўжды
«Клоуна» баяцца!



## ДЗЯТЛАВА ТРЫВОГА

Дзяцел шле марзянкай «SOS».
Па якой такой прычыне?
Дрэў шкада яму да слёз:
«Лес МОЙ гіне,
лес НАШ гіне!»

## ЧЫМ ПЛАМБАВАЦЬ ЗУБЫ?

Мама Волечцы
Казала строга:
— Ты не еш
Марожанага
Многа!



Не паслухала
Воля маму:
Вось і горла баліць,
Зуб — таксама.

Як пламбіру
Наелася ўволю,
Стаматолаг
Спатрэбіўся Волі.

Доктар кажа:
— Твой зуб уратуем.
Мы перш-наперш
Яго запламбуем.

У дзяўчынкі
Настрой сапсаваўся.
Аж да сэрцайка
Страх падабраўся.



Воля ў доктара
Стала прасіцца:
— Я сама
Паспрабую лячыцца...

— Як? — цікавіцца доктар.—
Скажы нам.

— Запламбую я зуб свой...
Пламбірам!

## ВОЖЫК І ЕЛАЧКА

Малеча вожык любіць лес,
Ды напаткаў ён раз лісіцу.
Звярок пад елачку залез:
— Схавай хутчэй мяне, сястрыца.
Пакуль з іголкамі тваімі
Мне больш надзейна, чым з маімі!



## ГУЛЬНЯ Ў ДАГАНЯЛКІ

Міхасёк зімовым ранкам,
Захапіўшы ў сенцах санкі,
Выйшаў, стаў сярод двара:
Дзе ж гуляе дзетвара?



Тут з'явіўся Дзед Мароз
І адразу — цап за нос!
Ну а потым, быццам жартам,
Ушчыкнуў за вуха раптам.

Хлопчык здзекаў не стрываў —
Драпака адразу даў.
На крутую горку ўцёк
Ад марозу Міхасёк.



Дзед Мароз такі старэнькі,
У яго баляць каленкі.
Ён ад хлопчыка адстаў
І... чапляцца перастаў!

## ПАРАДЫСТ

— Я хачу стаць парадыстам! —
Заявіў Андрэй бацькам.—
Як і дзед мой, гумарыстам
Стану я на радасць вам.

Дзед аж крышачку спужаўся
І пакрыўдзіўся ў душы:
— Можа, ты мяне сабраўся
Парадыраваць, скажы?

— Не скажу,— унук азваўся.—
Гэта покуль што сакрэт.
Я да многіх прыглядаўся —
Сам пабачыш потым, дзед.

На канцэрт свой самы першы
Запрасіў Андрэй сяброў,
Дзеда з бабаю, канешне,
Тату з маці, двух братоў.

Узрастае нецярпенне,
Бо артыст чамусь маўчыць...
Можа, ловіць ён імгненне,
Каб раптоўна рассмяшыць?

Тут, нічога не сказаўшы,
На гадзіннік ён зірнуў
І, нагу адну падцяўшы,
«Ку-ка-рэку» зацягнуў.

«Пеў» хвіліну так ці болей.
Хтось хіхікнуў: «Смехата!»
Потым выканаў ён «ролі»
Індыка, гуся, ката.

Сапраўды быў смеху варты
Гэткі вось рэпертуар:
Конь, карова, бык упарты
І сабака — друг Акбар.

Паказаў Андрэй і дзеда.
Вельмі ўдала, добра так.
Той пад бок таўчэ суседа:
— Школа дзедава, аднак!

Потым «брава» закрычалі,
Выклікалі і на біс.
Шмат цукерак надавалі —
Розных «Тузікаў», «Кіс-кіс».



Дзед, расцалаваць гатовы,
Падышоў да ўнука сам:

— За паказ мяне й каровы
Вось «Каровак» трыста грам!

Адбылося ўсё цудоўна,
А як твар лізнуў Акбар,
Раздзяліў Андрэй пароўну
З ім салодкі ганарар!

## СПРЭЧКА

Пятро заўсёды ўсё з'ядае,
Прасіць дабаўку звычку мае.
І хоць паўнець хлапчук пачаў,
Аднак ён есці менш не стаў.

На ўсе ж матуліны заўвагі
З мужчынскай кажа ён адвагай:
— Я ем, каб толькі быць дужэй
І касманаўтам стаць хутчэй.
Як потым палячу на Марс,
Мне мой спатрэбіцца запас.

А маці аж да слёз смяецца:
— Глядзі, ракета надарвецца!



І карабель твой можа рухнуць,
Як і далей так будзеш пухнуць.

Пятро ў даўгу не застаецца,
Таксама весела смяецца:
— Сабе ўяві хоць на хвілінку,
Што кожны ў космасе — пушынка.
Таму, матуля, есці ўволю
Не замінай, прашу, ніколі!



## ГОНШЧЫК

Колер
Не люблю
Чырвоны.
У зялёны
Я ўлюбёны.
Святлафоры,
Не спыняйце —
Шлях зялёны мне
Давайце!
Гоншчык я.
На самакаце
Я дамоў імчу,
Да маці.

Сёння дзень
Любімы самы —
Нараджэння дзень
У мамы.
Я прачнуўся
Рана-рана,
Прынясу ёй
Тры цюльпаны.
Павіншую
Маму
Першы —
Падару ёй
Кветкі з вершам!

## САРАМЛІВЫ ПАМІДОР

Оля
Ў летні
Час гарачы
Тыдні тры
Жыла
На дачы.



Там
Бабуля шчыравала,
Оля ж ёй
Дапамагала.
Памідоры
Даглядала,
Найбольш спелыя —
Зрывала.

Падзівіліся
Суседкі
Памідорам
Іхнім гэткім.
Тут якраз
Адна спытала:
— Дзе такі
Гатунак брала?
Памідор буйны,
Пунсовы...
Як завецца,
Адным словам?

Развяла
Бабуля
Рукі:
— Не было мне
Большай мукі...

Ой, суседка,
Каб я знала:
Назвы ўсе
Пазабывала!

Бабка думае,
Гадае.
Так, відаць,
Перажывае...

Тут унучка
Не стрывала:
— Сарамлівы ён! —
Сказала.
Схамянулася,
Знямела
І сама...
Пачырванела!





## «РЫЖЫ, РЫЖЫ...»

Рыжы ранак надыходзіць,
Сонца рыжае ўстае
І далонню рыжай водзіць
Па зрыжэлай скрозь траве.

Выйду з ценю на паляну —
Сонца хай не абміне.
З-пад рукі ўгару я гляну:
Лашчы рыжага —
мяне!

## ДЗЕНЬ ЗНАЁМСТВА

На першым
Верасноўскім сходзе,
Каб школу
Родную здзівіць,
Наш клас рашыў,
У поўнай згодзе,
Мянушкі ўзяць
Ды адмяніць.

Хвалілі нас
І віншавалі,

Ды вось бяда:
За летні час
Мы шмат імён...
Пазабывалі.
Мянушкі ж
Помняцца якраз!

Выдатнік,
Той,
Што быў «кірпаты»,
Сказаў —
І стала ўсім лягчэй:
— Урок знаёмства
Нам, рабяты,
Правесці трэба
Найхутчэй.

Дзяўчынка —
«Рыжай» яе звалі —
Заўвагу
Кінула найперш:
— Імёнаў нам
Не задавалі,
Але каб мы
Іх добра зналі,
Правесці Дзень
Знаёмства лепш!



## ЗАПУСК «СПАДАРОЖНІКА»



Смелы Ясь
Залез на дах.
Зверху
Паглядае.
Шар паветраны
Ў руках
Над сабой
Трымае.

Маці
Спуджана
Крычыць:
— Што ты
Робіш гэта?
— «Спадарожнік» запусціць
Трэба
Над планетай!

## ТАНЦАВАЛЬНЫ ГУРТОК

У танцавальны свой гурток
Заўжды праз парк ідзе Яніна.
Там на палянцы ёсць дубок,
Растуць бярозка і рабіна.

Дзяўчынка толькі паглядзіць —
Бярозка быццам ажывае:
Галінкі ўскідвае, трымціць
І раптам... зноўку замірае.

Рабінка гнуткая з дубком
Танцуе «Крыжачок» агністы:
Ажно рассыпала кругом
Свае чырвоныя маністы...

Гурткоўцы дзівяцца ў двары,
Зайздросцяць поспехам Яніны.
Яна ж тлумачыць ім: — Сябры!
Вучыцца трэба і ў рабіны!



## САКРЭТ ПТУШЫНАЙ ПРЫГАЖОСЦІ



Сарока
На двары
Вясковым
Сініцу
Стрэла
Выпадкова.
І пачала
Пытаць-дзівіцца,
Адкуль
Убор такі
Ў сініцы.
Заўжды зялёненькі,
Вясновы,
Прыгожы, яркі,
Быццам новы.
А шчочкі —
Белыя задужа...
Мо прымарозіла
Іх сцюжа?



Шчабеча
Юркая сініца,
Раскрыць
Сакрэт свой
Не баіцца:
– Ну што ты,
Цётачка сарока,
Сышлі ўжо
Маразы далёка!

Я шчочкі
Проста
Пабяліла.
Ў цырульні
Макіяж
Зрабіла.
Ты лепш скажы,–
Яна спытала,–
А з жыватом тваім
Што стала?
Што з ім ты,
Цётачка,
Зрабіла?
Напэўна,
Пудрай
Пабяліла?





Сарока
Мовіла,
Паныла:
– Я па цырульнях
Не хадзіла,
А ў лужыне
Жывот
Памыла...

## ПОЎНЯ – ЛЮСТЭРКА

Поўня –
Дзіва незямное,
Як люстэрка,
Залатое.
У яго Зямля
Глядзіцца,
Прыгажэйшай каб
Зрабіцца.

У яе ёсць шмат
Убораў,
А найлепшы з іх
Каторы?

Летні,
Восеньскі,
Вясновы?
Ёй да твару
Ўсе абновы!

Зблізу,
З космасу,
Здаля,
Скрозь
Прыгожая
Зямля!
Хоць яна
Пра гэта
Знае,
Ды ў люстэрка
Ўсё пытае:



— Ты скажы
Яшчэ раз, поўня,
Ці мне ёсць
Планета — роўня?

— Не,
Нічога на прыкмеце.
Ты адна
Такая
Ў свеце!

## ЗОРНЫ ЗВЯРЫНЕЦ

Максіму
Толькі
Сем гадоў,
А спаць яму
Нібы й не трэба.
Ён назіраць
Заўжды гатоў
За зоркамі
На ясным небе.

Вось галаву
Задраў Максім —



З Мядзведзіцы
Вачэй не зводзіць.
Яна
З мядзведзянём сваім
Па крузе,
Як у цырку,
Ходзіць.

А цар звяроў —
Магутны Леў —
Рыхтуе
Новую засаду.
Цяльца схапіць
Мо захацеў
І ловіць момант
Для нападу?

Нячутна Лебедзь
Дзесь плыве
Над галавой
Штодня кругамі.
Дракон касмічны
Там жыве,
Па зорках Рыбы
Б'юць хвастамі.

На поўдні неба
Зорны Воўк



Стаіць,
Ад старасці панылы.
Угледзеў Зайца
Ён здалёк,
Але дагнаць
Не мае сілы.

Звярынец гэты
Днямі спіць
І прачынаецца
Штоночы.
Тады Максім
Уверх глядзіць:
Дазнацца хлопчыку
Карціць,
Чые ж гараць
У цемры
Вочы?



## ВАСІЛЁК

Пасланнік неба — сіні васілёк
Зірне ў душу мне, і яна адтае.
Вось так глядзіць малодшанькі сынок,
Нібыта ў хованкі са мной гуляе.

То справа ён гарэзліва мільгне,
То забяжыць наперад, то адстане.
Папросіцца на рукі да мяне —
І на душы адразу цёпла стане.

Калі ж камбайны ў жніўні загудуць
І людзі вывезуць з палеткаў збожжа,
Вянок з апошніх васількоў сплятуць
І на дажынках сноп ім упрыгожаць.

А потым першы выпадзе сняжок,
Ды не агорне мяне сум глыбокі:
Са мною побач будзе Васілёк —
Жывы, гарэзлівы, блакітнавокі!

## КОЦІКІ

На вярбе каля ракі
Коцікі паселі.
Можа, з поўдня, дзівакі,
Раптам прыляцелі?

Ды пушысценькія ўсе,
Цёмна-шэрай масці.





Вецер вербачку трасе —
Як бы ім не ўпасці.

Незвычайныя, відаць,
Тыя кацяняты,
Бо не мяўкаюць — маўчаць,
Не бягуць дахаты.

Зніклі коцікі цішком,
Хоць было іх многа...
Ах, шкада, не ўзяў я ў дом
З кацянят нікога!

## ДЗВЕ СЯСТРЫ

У мяне сястра адна,
І таму крыху шкадую,
Што ўсяго адна яна —
Добра б мець яшчэ такую!

Сумаваў употай я,
Што рабіць з такой бядою?
Аж пакуль сястра мая
Ды не стала... медсястрою.

Памагла яна бацькам
Хутка вылечыць хваробы.
На сабе я зведаў сам,
Што сястрычка — лекар добры!

Не хварэю больш нічым,
Кінуў дрэнныя прывычкі,
Ды галоўнае не ў тым...
— У мяне,— кажу я ўсім,—
Стала дзве цяпер сястрычкі!



## ДЗІРАВЫ ПАРАСОН

Хмаркі ў небе
Сталі чарадою,
Сонца красавіцкае
З-пад іх
Промнямі сваімі,
Бы рукою,
Лашчыць,
Грэе
Тварыкі малых.

Вось у Зіны
Нос ужо
Ў вяснушках,
І таму
Гарэзы-хлапчукі
«Зінка рыжая»
Далі мянушку.
Крыўдна робіцца
Ад слоў такіх.

Мо зусім
Лепш не выходзіць
З хаты?
Ці на вуліцы
Адной сядзець
Ёй у цені
Тапаліных шатаў?
Як жа столькі
Без гульні сцярпець?

І яна
Пабегла
Да Тамаркі,
Бо і ў той
Вяснушак —
Цэлы рой.
— А давай гуляць
У цені хмаркі.
Месца ўволю
Хопіць нам пад ёй!

Як над імі
Стала аблачынка,
Зіна й кажа:
— Вось наш парасон!
Вельмі хороша
Пад ім дзяўчынкам,
Аж цямнець пачаў
Раптоўна ён.

З хмары лінуў дождж,
З вядра нібыта.
Зіна — ходу,
А Тамара:
— Стой!
Парасон
Дзіравы наш,
Як сіта,
І вяснушкі
Змые мо...
Вадой?





## ВЯРНУЎСЯ НА РАДЗІМУ ШПАК

Прыляцеў здалёку шпак,
Сеў на клён высокі.
Зверху бачна добра так
Вёску, луг шырокі...

Тут, напэўна, год назад
Шпак на свет з'явіўся.
А яшчэ сястрычка, брат...
Колькі іх? Забыўся.

Ён ляцеў шмат дзён, начэй.
Стома, голад, смага...
Ды была за іх мацней
Да Радзімы цяга.

Развінае крылы шпак,
Аж трапеча імі.
Славіць родны край спявак
Песнямі сваімі.



## ПТУШЫНЫ ЭТЫКЕТ

Пліска лётае нізка,
Блізка лётае пліска.
Вунь гняздо пад страхою,
Птушанят у ім трое.

Корміць іх маці пліска
Без відэльца і міскі.
Проста з роціка ў роцік,
Не балеў каб жывоцік.

Падрастаюць малечы —
І шырэй крылы-плечы.
Хто сказаў: «Пісклянаты...»?
Яны ўжо плісканяты!

Ля гняздзечка ўсе сталі,
Дружна маці віталі
Прысяданнем з паклонам —
Рэверанс, адным словам.

Свой адказ маці пліска
Ім дае па-англійску.
«Пліс» ды «пліс», што па-наску
Гучыць так: «Калі ласка!»





## ЗАЙЧЫКАВЫ ІМЯНІНЫ

Куртаты хвост
У зайчанят,
А вушы —
Надта ўжо
Даўгія,
Таму й спытаў
У таты Гнат:
— Чаму яны
Растуць такія?

А тата кажа:
— Чалавек
Дзень нараджэння
Год чакае,
Ну а ў касых —
Кароткі век.
Чакаць ім —
Часу не хапае.
Таму ўрачысты
Дзень такі
Яны штомесяц
Адзначаюць,
А каб раслі хутчэй,



Бацькі
За вушы
Дзетачак
Цягаюць!

## ЦЁПЛЫ ДЫМ

Дым
Над хатай
Зімой
Віецца.
Тым,
Хто ў хаце,
Цёпла
Жывецца!



# Вершаваны каляндар

## СТУДЗЕНЬ

Ён маладзей за ўсіх братоў,
Таму й гарэзіць часта:
Заўжды ўшчыкнуць за нос гатоў,
А то й за вушка раптам.

Яго прыемна ўспамінаць
Усім дарослым, дзецям...
Калі? Няцяжка адгадаць:
Калі спякотна, летам!

## ЛЮТЫ



Мароз, завеі, дзень малы,
Насы прастуджаныя, глоткі...
Не лютаваў каб месяц злы,
Укарацілі яго продкі.

## САКАВІК

Сакавік-вадзянік,
Крыгаход, крыгалюб.
Слёзы лье снегавік,
Капяжы: дзюб, дзюб, дзюб...

Певень з лужыны п'е,
Хвост вясёлкай гарыць,
Часта крыламі б'е,
Бы вось-вось паляціць.

Хутка будуць шпакі,
І жаўрук зазвініць.
Стаў ручай гаваркі —
Нават ноччу не спіць.

Сакавік, сакавік,
Свята сонца й вады.
Будзь, вясны маладзік,
Сакавіты заўжды!



## КРАСАВІК



Красавік — прыгажун,
Ураджаю вяшчун.
Сонцакрылай вясны
Сын сярэдні — пястун.

У вачах яго сінь
І вады, і нябёс...
І заве ўдалячынь
Гаманлівая плынь.

## МАЙ

Гэты час люблю дзівосны!
Салаўіны ранні золак.
Тчэ вясна на вечных кроснах
Дываны з чароўных зёлак.

Гнуць траву да долу росы,
Сонца сочыць краем вока,
Як вярба палошча косы
У рачулцы неглыбокай.



На гняздзе стаіць высока
Бусел — вартаўнік вясковы,
А пад ім плывуць аблокі
З белай квецені садовай.

Месяц гэты — самы лепшы!
Ён мне вельмі палюбіўся:
Я ж у маі ў мамы першым
Некалі на свет з'явіўся.

## ЧЭРВЕНЬ

Сонца свеціць найярчэй,
Спаць — дык ночы мала.
І раскоша для вачэй:
Так прыгожа стала!

Мора кветак і травы,
Там — дзядок з касою.
Не разгледзець галавы
Ў хвалях травастою.





## ЛІПЕНЬ

Ліпы ў квецені люблю,
Імі пахне ліпень.
Быццам з водарам тым п'ю,
Як з гарбатай, кіпень.

Дзетак вывезлі бацькі
Адпачыць на дачы
Ды каб вопыт хоць які
Даць ім гаспадарчы.

Хтосьці ў лагеры лясным,
Хтосьці — на Канарах,
Ды пад сонейкам адным
З ліпеньскім загарам.

Шмат прыемнага ўсяго,
Дык ці ёсць, скажыце,
Штосьці лепей за яго,
Лецейка ў зеніце?

## ЖНІВЕНЬ

Жніво ідзе па ўсёй краіне,
Камбайны стомлена гудуць.
Праклаўшы ў полі каляіны,
Машыны з верхам хлеб вязуць.

Снапы на ўзмежках, нібы бабкі,
Свой рэй дажынкавы вядуць.
Дзятве іржышча коле пяткі —
Вясёлы енк далёка чуць.

Начнога неба купал яркі,
І варта толькі вочы ўзняць,
Як зверху зорачкі-зярняткі
З каўшоў Мядзведзіц паляцяць.

## ВЕРАСЕНЬ



Ціха верасень тчэ павуцінкі,
Лета бабіна ў мроях сваіх...
Спеюць бэры, антоны, пуцінкі,
Цішынёй наталяецца слых.





Школы ўсе ажылі, загудзелі,
А вяргіні, нібыта шары,
Пасля свята званка зноўку селі
Каля школы і ў кожным двары.

Перад бурай, напэўна, зацішша,
Прадчуванне няяснай тугі...
Па-над хатамі ластаўкі ўвішна
Развітальныя робяць кругі.

## КАСТРЫЧНІК



Закружыў лістапад,
Распранаецца сад.
Пасля жаркіх дзянькоў
Прагне спорных дажджоў.
Першы раз на ставок
Навёў глянец лядок,
А трава раніцой
Стала жорсткай, сівой.
Бы шчаціна яна
На хрыбце кабана.
Стрэлы карту нябёс
Прачарцілі наскрозь:



Клінам птушкі ляцяць —
Будзем зноў іх чакаць!

## ЛІСТАПАД

Гэты месяц бы спазніўся.
Ну які ён лістапад?
Ліст апаў, пажух, скруціўся,
Можа, тыдні тры назад.

На зямлі і ў небе слота,
Хмары крыгамі плывуць,
За душу бярэ самота,
І сябры штось не ідуць.

Мокры снег да голля ліпне,
Шэры дзень вось-вось міне.
Верабей нат не чырыкне,
І сінічка не мільгне.

А ўсё ж будуць дні, як святы:
Сонца хмары расхіне,
І ў адказ яму рабяты
Заўсміхаюцца ў акне!



## СНЕЖАНЬ



Строгі ў меру ён, вяльможны,
І прыхільнік чысціні.
Ён запаслівы, заможны,
Ды не скнара ўсё ж, ані!

Ну а з дзецьмі дык гатовы
Прагуляць усе дзянькі.
Замест варты ганаровай
У яго — снегавікі.

Самы вопытны, старэйшы,
З ім сам Дзед Мароз на «ты».
Здасць ён справы маладзейшым,
Ды і знікне назаўжды!



# *Забаўлянкі-вымаўлянкі*

## СКНАРА



Міхась на вішню
Залез увішна,
Толькі тых вішань
Нарваў залішне.
Не ўтрымала
Скнару вішня:
Ён упаў –
Патрушчыў вішні.



## МАЛІНАВЫ ПАДМАН



Маліны
Падманулі
Ніла.
Маліны
Свой колер
Змянілі.
З чыста белага,
Як бяліла,
На малінавы,







Як... маліна.
Ніл наеўся
Малін
Уволю:
Больш не будуць
Маніць
Ніколі!



## ЯКІ АД КРОПУ ТОЛК?

На гарод
Прыйшоў
Пракоп
І паўсюль
Пасеяў
Кроп.
Чуе часта
Ён
Папрок:
Ну які
Ў тым кропе
Толк?
Паўтарае
Ўсім
Пракоп:

— Гэта праўда,
Не паклёп.
Сапраўды,
Люблю я кроп!
Не адмоўлюся
Ад кропу,
І на гэтым...
Стаўлю
Кропку!

## ЧУЖЫЯ СЛІВЫ

Рве са слівы
Мітусліва
Янка
Спелыя ўжо
Слівы.
Аж глытае
Хлопчык
Сліны —
Так ён любіць
Есці
Слівы.
Янка стаў







Такі
Шчаслівы,
Як нарваў
Паўсумкі
Сліў.

Раптам кажа
Хтось
Зласліва:
— То ж чужыя,
Янка,
Слівы...

## ГУЛЬНЯ З АБАРАНКАМ

Баран
Гуляе
З абаранкам:
Нанізвае
На рогі
Зранку.

Гульня
Ім гэткая
Абрана,



Таму што
Смачны
Абаранак.
Дык, можа,
Імі,
Баранамі,
І сушкі
Ў краме
Разабраны?

## ЯК ЧМЯЛЯ ПРАГАНЯЛІ З ВУЛЛЯ



Пчала
Чапялою
Чмяля
Пачала
Выганяць
З вулля.

Чмель ёй кажа:
— Пачакайце!
Пачастунку —
Мёду —
Дайце!





А пчала
Не частавала —
Прэч
З вулля
Чмяля
Прагнала.

## МАЛАТОК ЦВІКУ — НЕ ДРУГ

Малаток
Па плешцы —
Стук!
Потым зноўку —
Стук ды грук.
Цвік скрывіўся,
Быццам крук.
Так абрыдзеў
Прыкры гук.

Малаток
Аж выпаў
З рук.
Цвік цяпер
Яму —
Не друг.

Цвік
Упёрся
Недзе
Ў сук...
Можа,
Ён яму
Сябрук?



# *Загадкі*

## КАЗКА-ЗАГАДКА ПРА КАЗЛЯНЯТКА

Ты казку гэту прачытай
Пра козліка малога.
Гарэза, ён за небакрай
Нейк зачапіўся рогам.

А потым і вышэй палез,
Хоць на вачах сцямнела.
Застаўся ўнізе луг і лес,
Ды козлік надта смелы.



Да самых зорачак дапяў
Наш «альпініст» рагаты.
Пасля ж дурэць ён распачаў,
Нібы ў двары, ля хаты.

Аж рассмяшыў, дзівак, мяне,
Як натапырыў рожкі:
Вось-вось Мядзведзіцу бадне,
Хоць страшнавата трошкі.

Не спіць гарэза-казляня.
Яшчэ малы, няўклюда,
А хоча да пачатку дня
Ён пабываць усюды.

Аб хмарку чэшацца ілбом,
То Млечным Шляхам скача.
Аж высякае капытком
Сузор'яў пыл гарачы.

Калі ж гарэза малады,
Паспее натаміцца,
Захоча траўкі ён тады,
На луг пачне садзіцца.

Хоць дзень амаль ужо відзён,
Ды козлік зноў не ўцерпіць:

Збанок на плоце рогам ён
Яшчэ крадком падчэпіць.

*

Хто ж гэты козлік? Я — маўчок.
Сам адгадай, будзь ласкаў,
Што казляня — МАЛАДЗІЧОК
І пра яго ўся казка!

## МАСТАК

Надзень прыгожыя абновы
І папазіруй трошкі.
Глядзі, партрэт ужо гатовы:
Падобны ты — да крошкі!
Усё ў ім зроблена як след,
Ды адваротны твой партрэт.
Мо памыліўся ў чым мастак?
Завуць яго, між іншым, як?
(Люстэрка)



## МАЙСТРА

Ён у рабоце
Спрытны, хваткі.
Узводзіць сам
Ля рэчкі хаткі.
Ёсць у яго
Піла-«зубатка»,
Яшчэ ёсць хвост —
Якраз лапатка.



Ці хопіць вам
Падказак гэткіх,
Каб майстра вы
Назвалі, дзеткі?
(Бабёр)

## ПАЛАСАТЫ, ВАЛАСАТЫ…

На ім, як у малых дзікоў,
Палосачкі з усіх бакоў.
Затое хвосцік — дайце рады —
І спераду яго і ззаду.

Як да яго працягнеш ручкі,
Наткнуцца можаш на калючкі.
То з валаскамі ён, то гладкі,
Ну а расце — ля кожнай хаткі.
(Агрэст)

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ІНТЭРНАТ

Яны з усіх канцоў планеты
Сышліся ў інтэрнаце гэтым.
Агульнай мовы не знаходзяць,
Ды гэта разам жыць не шкодзіць.
Аднак не ходзяць яны ў госці,
Каб не пакрыўдзіў хто кагосьці.
Затое шмат гасцей прымаюць.
Мо і не хочуць, а — страчаюць.

Адно дазнацца застаецца:
Як гэты інтэрнат завецца?
(Звярынец)



## ВАВЁРКА-МАСТАЧКА

Ну, вавёрка, ну, дзівачка!
Як сапраўдная мастачка,
Акунула хвост-мяцёлку
Ў каляровую вясёлку
І распырскала там-сям
Многа яркіх фарбаў-плям.
Мо таму, як кінуць вокам,
Расквітнела ўсё навокал?
Мастакі за ёю сочаць —
Разгадаць сакрэты хочуць.
Іх шкада вавёрцы стала
І яна ім так сказала:
— Каб зручней пісаць карціны,
Дам па жменьцы вам шарсцінак.
Падарунак гэты, можа,
Маляваць вам дапаможа...

Што з вавёрчыных хвастоў
Робяць людзі з тых часоў?
(Пэндзлікі)



# Смяшынкі-жартаўлінкі

## ГРЫБ — ДРАЖНІЛКА

Ой, цяжка як збіраць грыбы
Малой дзяўчынцы ў лесе!
Яны схаваліся нібы
Раптоўна ад Алесі.

Растуць тут ягады, чабор,
А вось з грыбоў — нічога.
Аж тут стракаты мухамор
Ёй заступіў дарогу.

— Глядзі! — Матулі шчэ здаля
Паказвае дзяўчынка.—
На ім панамка, як мая,
Дык гэты грыб — дражнілка?



## ХТО ПАСТРЫЖЭ… ПЕНЬ?

Ён стаіць сярод бяроз,
Пень стары, замшэлы.
Скрозь апенькамі зарос,
Як шчаціннем шэрым.

Пень глядзіць на грыбнікоў,
Бы з надзеяй-верай:
«Пастрыжы хто-небудзь зноў,
Я зарос не ў меру».

## СВЕЦІН САКРЭТ

У нядзелю Света з татам
Выйшлі ў дворык пагуляць.
І сказаў ёй тата раптам:
— Пачакай хвілінак пяць.
Пазваню я з аўтамата,
Ты ж паводзь сябе як след...
— Добра, толькі ведай, тата,
І ў мяне ёсць свой сакрэт.
Я хацела,— кажа Света,—
Юрку з дому пазваніць.



З тэлефона-пісталета
Мне зручней пагаварыць!



## ЖАРТ УНУЧКІ

— Вусень,
Вусень
Барадаты,
Ты куды
Ідзеш —
Паўзеш?
— Ты не так
Мяне
Завеш.
Я не вусень —
Дзед вусаты!

## ШТО БАЛІЦЬ У ІНДЫКА?

Ходзяць важна індыкі
Па двары шырокім,
А за імі хлапчукі
Сочаць пільным вокам.





Птушка рэдкая, па ўсім,
Для мясцін тутэйшых,
Бо спытаў малы Максім
У сяброў старэйшых:
— Што вісіць у індыка
Вунь пад самай дзюбай?
Адшукаў ён чарвяка
Ды баляць мо зубы?

Чхнуў прастуджаны Ілля,
Выцер штось пад носам:
— Ён саплівы, як і я,
Вось і ўсе дзівосы!



## БУСЛІНЫ РАМАТУС

То ходзіць бусел па вадзе,
То на адной стаіць назе.
Чаму? Навошта нам гадаць,
Бусла папросім адказаць.
Заклёкаў бусел: — Дзівакі,
Нашто мачыць мне дзве нагі?
Не баязлівец я, клянуся,
Ды раматуса ўсё ж баюся!

## ШКОДНАЯ ЗВЫЧКА

Зімою Мішка
Смокча лапу.
Бадай,
Не закрывае зяпу.
За гэта
Не ругае маці
Цярплівы й бацька
Да дзіцяці.
Мо звычку
Шкоднай
не знаходзяць?
Так, так,
Бо тое ж...
Самі робяць!



## ЗМЕСТ

## *Вершаваны каляндар*



## *Забаўлянкі-вымаўлянкі*







## *Загадкі*



## *Смяшынкі-жартаўлінкі*





**Саковіч, П. П.**

С15 Сарамлівы памідор : вершы: для малод. шк. узросту / Павел Саковіч; маст. Т. Г. Шэлест.— Мінск : Маст. літ., 2007.— 71 с. : іл.

ISBN 978-985-02-0934-4.

Вершы, вершаваны каляндар, дасціпныя загадкі, забаўлянкі-вымаўлянкі і смяшынкі-жартаўлінкі складаюць гэту кнігу. Аўтар умее прыкмеціць незвычайнае ў звычайным, тое, пра што цікава прачытаць і дзецям, і бацькам.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

САКОВІЧ Павел Паўлавіч

**САРАМЛІВЫ ПАМІДОР**

*Вершы, вершаваны каляндар,*
*забаўлянкі-вымаўлянкі, загадкі,*
*смяшынкі-жартаўлінкі*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*
Стылістычны рэдактар *Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана да друку 25.06.07. Фармат 60x100$^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Пецярбург. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 5,0.
Улік.-выд. арк. 3,57. Тыраж 2000 экз. Заказ 1586.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі
Беларусь. ЛИ № 02330/0056778 ад 17.02.2004.
220004, Мінск, праспект Пераможцаў, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Типография “Победа”»
222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.